© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 40 (553) ГОД XI БЕЛАСТОК, 2 КАСТРЫЧНІКА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

## У НУМАРЫ





На плошчы перад Вялікім тэатрам у Варшаве. На першым плане помнік Варшаўскай Ніке.

# КАНГРЭС КУЛЬТУРЫ

*7 кастрычніка ў Вялікім тэатры ў Варшаве пачне сваю працу Кангрэс Польскай Культуры. Мае ён не благія заданні. Замкне святкаванні Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы, але і пакажа развіццё культуры на нашых землях. Цікавая надзвычай гэта рэч — вобраз культуры за 1000 год.*

*Кангрэс з асаблівым націскам зоймецца культурай Народнай Польшчы — яе магутным ростам і неспатыканым ва ўсіх 1000 гадах развіццём. Культура 20-цігоддзя — гэта культура ўсіх і для ўсіх, чаго не было ніколі раней. Такое дасягненне, зразумела, трэба паказаць ва ўсёй красе і ўсяму свету. Кангрэс будзе падзеяй сусветнага значэння і з той прычыны, што пакажа месца польскай культуры ў свеце — калісь і цяпер. Ведаем, што гэтае месца не малое.*

*Кангрэс, як з гэтага выходзіла б, мае быць закругленым урачыстым здарэннем, дзе мова аб дасягненнях і бляснах. Не зусім. Найбольшыя розумы краіны — міністры, вучоныя, літаратары — прынялі ўдзел у перадкангрэсавай дыскусіі. І што? Выявіліся сардэчныя клопаты, каб Кангрэс стаўся не толькі ўрачыстай тэлеграмай, але каб заглянуў і ў будучае нашай культуры. Якой яна мае быць у далейшым, якім шляхам пойдзе?*

*Многа залежыць ад накінутай на Кангрэсе праграмы развіцця культуры. Дыскутанты ў большасці падкрэслівалі патрэбу выпрацавання візіі нашай будучай культуры.*

*Што ў ёй найважнейшае?*

*Праф. Сухадольскі — сусветнай славы педагог — сцвярджае, што добрая сярэдняя школа для ўсіх.*

*Праф. Букоўскі — інжынер, рэктар Палітэхнікі Варшаўскай, як жа блізкімі словамі прыпамінае аб неабходнасці праграмы тэрэновай сеткі культуры. Гаворыць, што нельга нам культурнага ўзросту цэлага грамадства мерыць толькі дасягненнямі вялікіх цэнтраў.*

*А праф. Жулкеўскі — публіцыст, навуковы сакратар Аддзела грамадскіх навук ПАН кажа, што Кангрэс робіцца не толькі для прошлага, як перад усім для будучага.*

*У выніку перадкангрэсавай дыскусіі непамерна вырасла заданне Кангрэса і добра, што так сталася. На гэтым выйграе перад усім правінцыя, вёска.*

*Кангрэс у свае клешчы ўцягнуў і нацыянальныя меншасці. Цэнтральна прызнана кожнаму таварыству аднаго дэлегата. Беларускае таварыства вытыпавала такога. Але зразумела, ва ўмовах Беласточчыны, таксама сярод дэлегатаў выбраных з ваяводства, ёсць людзі — прадстаўнікі беларускага асяроддзя. Бо і беларускасць у нас непадзельна ўвогуле і ўсюды з культурнай праблематыкай усяго ваяводства. Гаварыць аб ёй, дбаць пра яе, гэта таксама гаварыць і дбаць пра ўсіх нас, для ўсіх нас, пра нашу супольную беластоцкую культуру.*

*Другі дзень Кангрэса — гэта інтэнсіўная праца дэлегатаў у камісіях. Дэлегаты з усяе краіны змогуць тут даць з сябе найбольш. Мы Кангрэс вітаем, жадаем поспехаў і чакаем на мудрыя, прыгожыя вынікі.*

*Вера Леўчук*

СЕМІНАР У БЕЛАВЕЖЫ

# БІБЛІЯТЭКАР І ЯГО ПРАЦА

Усярэдзіне верасня адбыўся ў Белавежы ваяводскі семінар бібліятэкараў. Быў тры дні. Прысвечаны Тысячагоддзю, Кангрэсу Культуры Польскай і чытальніцтву нацыянальных меншасцей.

Семінар на вельмі высокім узроўні. Лекцыі чыталі дац. Флёрыян Неуважны з Варшаўскага універсітэта, дац. Ксаверы Сверкоўскі — вядомы даследчык дзеяў кніжкі і бібліятэк з Варшавы, др Аляксандр Баршчэўскі з Варшаўскага універсітэта, др Станіслаў Бароўскі з інстытута млекакормячых ПАН. Даклады і лекцыі былі надзвычай цікавыя, далі масу матэрыялаў на тэму гісторыі ўзаемных уплываў, а таксама аб беластоцкай дарозе кніжкі праз стагоддзі.

Пару слоў аб арганізатары — Ваяводскай бібліятэцы. Гэта адзіная культурная ўстанова ў нас, якая ведае, чаго хоча. Тэма чытальніцтва ў мовах беларускай, украінскай ці літоўскай займае многа месца ў працы Ваяводскай бібліятэкі. А цяжкасцей на гэтай дарозе нямала! Адкуль узяць цікавую беларускую кніжку?

Белавежскі сёлеташні семінар быў семінарам кіраўнікоў і інструктараў усіх павятовых бібліятэк з ваяводства. Першы дзень прысвечана актуальным пытанням Кангрэса і развіццю культуры ў Тысячагоддзі. На другі дзень даехалі ўсе грамадскія бібліятэкары з мясцовацей беларускіх і украінскіх. І пры такім форуме шырока гаварылася аб беларускім, украінскім і літоўскім чытальніцтве. Тлумачыць не трэба, чаму найбольш аб беларускім. Яно на Беласточчыне найшырэйшае.

У другім дню гаварылі дацэнты і дактары аб укладзе нацыянальных меншасцей у польскую культуру і літаратурна-культурных кантактах у мінулым і сёння. Ад літоўцаў гаварыў Зыгмунт Стабэрскі — знаўца і перакладчык літоўскай літаратуры. Ад украінцаў — Флёрыян Неуважны, які ўсебакова (літаратура, музыка, тэатр, фальклор, архітэктура, мастацтва) распрацаваў уклад украінцаў у польскую культуру. Ад беларусаў выступаў Аляксандр Баршчэўскі. Ён большую ўвагу звярнуў на кантакты пісьменнікаў у мінулым і навейшым часе. Тэма (надта цікавая і надта патрэбная): «уклад беларускай нацыянальнай меншасці ў польскую культуру», чакае распрацоўкі — папулярнай, сінтэтычнай.

Трэці дзень семінара — Гайнаўскі павет у культурным разрэзе, які надзвычай цікава прадставіў выкладчык прафесіянальнай школы з Гайнаўкі Юліюш Айжаноўскі, а потым аб Пушчы — адвечнай і багатай са сваімі дзесяці тысячамі розных гатункаў раслін і звяроў, гаварыў Станіслаў Бароўскі з Белавежскага інстытута млекакормячых ПАН. (вл)



Скульптура Кастуся Каліноўскага ў гарадоцкім Доме культуры, які носіць імя слаўнага беларускага рэвалюцыянера. вялікага барацьбіта за беларуска-польскае братэрства.

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### XXI СЕСІЯ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН...

...распачала працу 20 верасня г.г. Прадбачваецца, што будзе яна адной з цікавейшых і цяжэйшых сесій на працягу апошніх гадоў. Прычынай таго могуць быць тры асноўныя элементы: 1) рэзігнацыя У Тана, 2) амерыканская агрэсія ў В'етнаме, 3) серыя гвалтоўных або ўкрытых пераваротаў, якія наступілі ў некалькіх краінах Афрыкі, Азіі, а таксама Лацінскай Амерыкі.

Парадак дня XXI сесіі мае 90 спраў. Гэта не так і многа ў параўнанні да мінулага года, дзе на парадку дня было 108 спраў. Трэба адзначыць, што некаторыя справы, як, напрыклад, скліканне канферэнцыі па раззбраенню ці канвенцыя аб заказе тэрмаядзернай зброі былі перанесены з мінулай сесіі ААН. Нягледзячы на няясную атмасферу па прычыне выбараў новага генеральнага сакратара і важнасці некаторых спраў, якія стаяць на парадку дня, многія назіральнікі прадбачваюць, што сесія закончыцца нармальна 20 снежня г.г.

20 верасня г.г. лік членаў ААН пабольшыўся да 118. Прадбачваецца, што гэта колькасць пабольшыцца яшчэ ў гэтым годзе да 121 або 122 краіны.

### МАНЕЎРЫ «ВЕЛТАВА»

У Чэхаславакіі закончыліся вялікія манеўры войск краін — удзельнікаў Варшаўскага дагавору. Прыймалі ў іх удзел войска: Чэхаславакіі, Венгрыі, ГДР і СССР. Манеўры закончыліся парадам, які адбыўся ў Будзеявіцах. Гэта былі найбольшыя з дагэтуляшніх манеўраў краін — удзельніц Варшаўскага дагавору. Была тут паказана вялікая спраўнасць не толькі паасобных армій, але і чэхаславацкага цывільнага насельніцтва, якое было ангажаванае ў гэтыя манеўры.

### НОВЫЯ ФОРМЫ АГРЭСІІ Ў В'ЕТНАМЕ

Амерыканская агрэсія ў В'етнаме штораз прыймае новыя формы. Пасля працягваючайся эскалацыі бамбардзіровак, якія ахапілі тэрыторыю Паўднёвага В'етнама, кантраляванага партызанамі, — а таксама густа заселеную тэрыторыю ДРВ — Пентагон развівае і апавяшчае далейшае ўзмацненне хімічнай вайны. У апошнім часе амерыканскі міністр абароны заявіў, што выкарыстанне атрутных газаў і іншых субстанцый у Паўднёвым В'етнаме павялічыцца ў тры разы.

### ВІЗІТЫ

Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў наведаў Югаславію, дзе правёў размовы з Іосіфам Броз Ціта. З Югаславіі 25 верасня г.г. Леанід Брэжнеў і суправаджаючы яго сакратар ЦК КПСС Юрый Андропаў прыбылі ў Будапешт, дзе іх віталі кіраўнікі вянгерскай партыі і ўрада з Я. Кадарам на чале.

А.К.

## БССР

### БЕЛАРУСКАЯ

Беларуская дэлегацыя на XXI-ую сесію Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку складаецца з чатырох членаў, чатырох намеснікаў членаў і пяці дарадчыкаў ды экспертаў. Дэлегацыю ўзначаліў міністр загранічных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч.

### СІСТЭМА

Пачалася падрыхтоўка да будаўніцтва Вілейска—Мінскай воднай сістэмы. Перакідка сцёку ракі Віліі дасць магчымасць штогод дадаткова атрымліваць для патрэб вялікага Мінска 382 мільёны кубічных метраў вады, без пагоршання прытым водных запасаў прыгожай Віліі.

### СХОД

У Мінскім афіцэрскім доме адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны Дню танкіста. У сходзе прынялі ўдзел сакратар ЦК Кампартыі Беларусі С. Пілатовіч, першы намеснік камандуючага войскамі Беларускай Ваеннай Акругі генерал-лейтэнант Х. Амбаран і іншыя высокія асаблівасці палітычнага і вайсковага жыцця Беларусі.

### ВЫПРАБАВАННІ

На Мінскім трактарным заводзе створана новая мадэль машыны «Т-50К». Гэты трактар прызначаны для работы на крутых гарах.

### ТУРЫСЦКІ

Урухомлена турысцкія паязды «Беларусь». Гэтакі поезд з'яўляецца формай «вчасаў». Едзе ён толькі ноччу, дзённы час прызначаны на экскурсіі яго пасажыраў па сустрэчных гарадах і ўрочышчах. Маршруты паяздоў «Беларусь» — Украіна, Паўднёвая Расія, Закаўказзе, Малдавія, Закарпацце, Прыбалтыка.

### ЗМЕНЫ

У Крымінальным кодэксе Беларускай ССР уведзена некаторыя змены ў сувязі з патрэбай вострай барацьбы супроць хуліганства і злачынства.

### УСПАМІН

Орган ЦК КПБ газета «Звязда» змясціла матэрыял пра сакратара Цэнтральнага Камітэта КПЗБ Міколу Дворнікава, псеўданім — Стах Тамашэвіч, які трагічна загінуў у Іспаніі. Ён марыў аб стварэнні беларускага батальёна імя Кастуся Каліноўскага.

### ГОСЦІ

У Мінску пабывала дэлегацыя польскіх студэнтаў, якая сустрэлася з беларускай студэнцкай моладдзю. Польскія студэнты наведалі слаўныя мясціны беларускай сталіцы.

### ОРДЭНЫ

Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі Т. Бірыч уручыла 15 верасня ордэны і медалі вялікай групе работнікаў будаўніцтва. Узнагароджаны яны за дасягненні ў выкананні сямігадовага плана па капітальнаму будаўніцтву.

(СЯ)

## ПОЛЬШЧА

### СЁЛЕТАШНІ ЦУКАР

Як першыя распачалі прадукцыю цукроўні Люблінскага ваяводства. Да першых дзён гэтага тыдня падняло там працу 10 цукровых фабрык. Услед за імі прыступаюць да працы рабочыя калектывы «салодкай» прамысловасці ў другіх раёнах краіны. Цукроўні запасліся ўжо буракамі ў колькасці да 3-х мільёнаў цэнтнераў і паспелі выпрадукаваць з іх звыш 50 тысяч тон цукру.

### ПАМЯЦІ НАРВІДА

Цыпрыян Каміль Норвід — выдатны польскі паэт, які нарадзіўся 145 год таму назад. Сучаснік Міцкевіча і Славацкага, хаця не заваяваў такой славы і папулярнасці, якой яны карысталіся. Яго творчасці сучасныя яму не разумелі і адкідалі яе.

У 145 гадавіну нараджэння паэта Нацыянальны тэатр у Варшаве пры выдатнай дапамозе і падтрымцы Прэзідыума Сталічнай рады нарадовай наладзіў у суботу 24 верасня г.г. урачысты вечар прысвечаны жыццю і творчасці Цыпрыяна Каміля Норвіда. Выдатныя артысты чыталі нарвідаўскую паэзію і прозу ды прадстаўлялі меркаванні сучасных паэту людзей пра яго.

### «ШТЫГАРКА»

Гэта найстарэйшая ў нашай краіне школа, якая рыхтуе кадры для вугальнай прамысловасці. Яе заснаваў у горадзе Дамброва Гурніча 150 год таму назад выдатны польскі гаспадарчы і грамадскі дзеяч — Станіслаў Сташыц. Цяпер школа носіць яго імя. За вялікія заслугі для польскай вугальнай прамысловасці шахцёрскі тэхнікум у Дамброве Гурнічай падчас юбілейных урачыстасцей быў адзначаны ордэнам Сцяга працы I класа.

### НОВЫЯ КВАТЭРЫ

Будаўнікі жылых дамоў абавязаны да канца гэтага года перадаць у карыстанне амаль 266 тысяч кватэр. На працягу 8-мі месяцаў паспелі яны выканаць свой план ледзь на 50% — перадалі ў карыстанне 134 тыс. кватэр. Найлепш свае заданні выконваюць будаўнікі Лодзі і Познані.

### ПОЛЬСКІЯ ВУЧОНЫЯ ЧЛЕНАМІ АКАДЭМІІ НАВУК СССР

Прэзідыум Акадэміі навук СССР выбраў замежнымі членамі Акадэміі выдатных польскіх вучоных: старшыню Польскай Акадэміі навук, праф. доктара Януша Грашкоўскага і яго намеснікаў — міністра праф. доктара Генрыка Яблонскага і праф. доктара Казіміра Куратоўскага. Урачыстасць па ўручэнні дыпломаў замежным членам Акадэміі навук СССР адбылася ў Савецкім пасольстве ў Варшаве. Дыпломы ўручыў пасол СССР у Польшчы Аверкій Арыстаў.

## ВАЯВОДСТВА

### МУРАВАНЫ КРЫВЁЮ

Пачаўся новы студэнцкі навучальны год. У беластоцкім палацы гетмана Браніцкага зноў разгасціліся студэнты. Хочацца тады прыпомніць, што гэты сапраўды прыгожы палац — Версаль Падляшскі, як яго называлі — мураваны быў потам і крывёю жыхароў многіх вёсак. Прыгнёт сялян быў у гетмана Яна Клеменса Браніцкага так суровы, што ў 1720 годзе яны збунтаваліся і адказаліся ад дармовай працы ў карысць магната. У гэтым бунце прыймалі ўдзел жыхары вёсак: Беразова Старое, Шастакі, Асоўка, Мора, Дубічы, Махнатае, Хітра, Курашава, Стары Корнін, Карыціск і некаторых другіх. На збунтаваных сялян Браніцкі паслаў сваё прыватнае войска, якое вельмі сурова расправілася з адважнымі мужыкамі. Нейкага Івана Бурака забілі кіямі на смерць. Вось як радзілася магнацкая «прыгажосць».

### АДЗНАКА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ ДЛЯ «РУХУ»

Па прапанове Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу Дзяржаўная Рада прысвоіла Беластоцкаму прадпрыемству «Рух» адзнаку Тысячагоддзя. Беластоцкі «Рух» асабліва заслужыўся для ваяводства ў прапагандзе, чытальніцтве і распаўсюджванні газет і кніжак. Клубы «Руху» сталіся цяпер амаль галоўнымі цэнтрамі культуры ў вёсках.

### БЕЛЬСКАЯ МЕХАНІЗАЦЫЯ

Зараз у Бельскім павеце ідзе інтэнсіўная пабудова помаўскіх аддзелаў у Боцьках, Браньску і Орлі. Плануецца пабудова іх у Храбалах і Лубіне Касцельным. У распараджэнні сялян Бельскага павета знаходзіцца ўжо звыш 200 трактарных камплектаў і 150 абмалотачных агрэгатаў.

### ПАРАДЫ МАЛАДЫМ ГАСПАДЫНЯМ

Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі пастанавіла наладзіць у сябе пункт спецыялістычных парад для маладых сялян, якія самастойна прыступаюць да гаспадарання.

### ЗАЦІКАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРАЙ

Перад Кангрэсам Культуры наглядаецца вялікае зацікаўленне справамі культуры сярод салдат, афіцэраў і іх сем'яў Беластоцкага аддзялення Войск аховы пагранічча. Нядаўна адбыліся там сустрэчы з паслом у Сейм — Крыстынай Маршалэк-Млыньчык і дэлегатам на Кангрэс, кіраўніком аддзела культуры ВРН у Беластоку — Ф. Стачкоўскім.

### ФЕСТЫН БГКТ

Сакольскі аддзел БГКТ супольна з крынкаўскімі актывістамі наладзілі ў Крынках 25 верасня беларускі фестын. Пасля афіцыйнай часткі з новай праграмай выступіла эстрада «Лявоніха». Фестын выклікаў даволі вялікае зацікаўленне мясцовага насельніцтва. Больш дакладна напішам аб ім за тыдзень.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 2.X.**

8.30 Politechnika TV: Geometria wykreślna — elementy przynależne. Wykładowca: doc. dr Z. Dzięgielewski; 9.05 Politechnika TV: Chemia — „Układ okresowy pierwiastków z uwzględnieniem budowy atomu". Wykładowca — doc. dr A. Bartecki; 9.35 Lekcja języka rosyjskiego; 9.55 Politechnika TV: Matematyka — „Działanie na macierzach. Macierz odwrotna". Wykładowca: doc. dr R. Leitner; 10.30 Program dnia; 10.35 Dla młodych widzów „Kino Przygoda" — „Wspomnienia z wakacji" — film fab; 11.40 Wiadomości dziennika TV; 11.55 Sprawozdanie sportowe; W przerwie ok. 12.45 PKF; 13.50 Zespoły Pieśni i Tańca z Zielonej Góry („Sezam muzyczny"); 14.20 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu w lekkoatletyce NRD — Polska (Magdeburg); 16.30 „Jedziemy na łów"; 16.45 „Tadeusz Makowski" („Portrety"); 17.20 „Radość i gorycz" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 18.15 „20 lat teatru polskiego"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.20 „Ada i inne" — piosenki J. Jurandota; 20.50 „Niedziela sportowa"; 21.10 „Ostatni miliarder" — film fab. fr; 22.40 Wiadomości sportowe.

**PONIEDZIAŁEK, 3.X.**

16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzieci „Blaszane puszki" „Opowieści znad rzeki" — film; 17.15 Dla młodych widzów: „Pies, mój przyjaciel"; 17.35 „W rocznicę powstania Milicji Obywatelskiej" — rep. film; 17.50 Program z Krakowa; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.45 TV Magazyn Postępu Technicznego; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Film; 20.15 Teatr TV: „Odprawa posłów greckich" — dramat Jana Kochanowskiego. Wykonawcy: H. Zembrzuska, S. Zaczyk, J. Hanisz, J. Wyrzykowski, A. Zaorski, St. Jasiukiewicz, K. Kumor, W. Krasnowiecki, K. Kowalewski, W. Nanowski, M. Żabczyńska, K. Kamienska, K. Łaniewska, A. Pawlicka, J. Bylczyński, Z. Bończa-Tomaszewski; 21.05 „Na półkach księgarskich"; 21.15 „Teatr bez słów" — pantomima wrocławska; 21.45 Dziennik TV.

**WTOREK, 4.X.**

10.00 „Popiół i diament" — film fab. pol; 11.40 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — „Ślepcy Maeterlincka („Dzieje dramatu"); 12.30 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 Politechnika TV. Matematyka — „Zastosowanie macierzy do równań liniowych". Wykładowca: doc. dr R. Leitner; 16.30 Politechnika TV. Matematyka — „Układ współrzędnych". Wykładowca: dr B. Gleichgewicht; 17.00 Wiadomości dziennika TV; 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam": 17.20 Dla młodych widzów: Film; 17.40 Informator handlowy; 17.50 Kurs Rolniczy: „Uprawa żyta" („Produkcja zbóż"); 18.20 „Walczymy parami" — teleturniej; 18.50 „Na morskich szlakach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Popiół i diament" — film fab. pol; 21.55 Kronika Kulturalna; 22.15 Dziennik TV; 22.30 Program na jutro; 22.35 Politechnika TV. Matematyka — „Zastosowanie macierzy do równań liniowych". Wykładowca: doc. dr R. Leitner; 23.05 Politechnika TV Matematyka — „Układ współrzędnych". Wykładowca: dr B. Gleichgewicht.

**ŚRODA 5.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) „Współgospodarze fabryki" („Wychowanie obywatelskie"); 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Maszyny proste"; 11.25 „Celuloza"—film. fab. pol. wg. powieści I. Neverly; 13.25 Przerwa. 16.15 29 lekcja języka rosyjskiego; 16.35 Program dnia; 16.40 PKF; 16.50 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Od skakanki do dziecięcego baletu" (Berlin); 17.30 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Magazyn Medyczny; 18.20 Program filmowy; 18.50 „Pod znakiem jakości"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Film; 20.15 Muzyka Polska. Koncert z Wawelu; 21.15 „Światowid" — mag. wydarzeń międzynarodowych; 21.45 „Odwiedziny o zmierzchu" — tv film pol.; 22.15 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 6.X.**

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Wielcy mistrzowie Odrodzenia"; 11.25 Przerwa; 16.25 29 lekcja języka francuskiego; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę"; 17.25 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 17.45 „Na zdrowie"; 18.10 „Kwadrans zagadek"; 18.25. „To co najlepsze"; 18.55 „Laboratorium sztuki" — rep. filmowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Występy Zespołu „Mazowsze" na otwarcie Kongresu Kultury Polskiej; 20.50 „Jutro Kongres" — publicystyka kulturalna; 21.20 Dziennik TV; 21.35 „Awatar" — tv film pol. wg opowiadania T. Gauthiera; 22.35 Program na jutro; 23.40 29 lekcja języka francuskiego.

**PIĄTEK, 7.X.**

9.55 Otwarcie Obrad Kongresu Kultury Polskiej. Transmisja z Teatru Wielkiego w Warszawie; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii: „Hipotezy"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. I) „Na ulicy"; 13.00 Przerwa; 16.25 29 lekcja języka angielskiego; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla dzieci: „Szewc Kopytko i kaczor Kwak" K. Makuszyńskiego; 17.35 „Bawcie się z nami" zespoły amatorskie przed kamerami; 18.00 „Azymut" — wojskowy magazyn młodzieżowy; 18.25 „Wielokropek" — tyg. aktualności satyrycznych; 18.55 Wszechnica TV: „U źródeł kultury" — program historyczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Sprawozdanie filmowe z 1-go dnia obrad Kongresu Kultury Polskiej — relacja filmowa; 21.10 „Mistrz" — tv film pol; 22.30 Dziennik TV; 22.45 Program na jutro; 22.50 29 lekcja języka angielskiego.

**SOBOTA 8.X.**

10.00 „Pod gwiazdą frygijską" — film fab. pol. wg. powieści I. Neverly; 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Biologia — „I raz i dwa..." 12.25 Przerwa; 16.20 Program dnia; 16.25 Program tygodnia; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla młodych widzów — film; 18.00 „1000 lat Kultury Polskiej na Ziemiach Zachodnich" — rep. film.; 18.10 „Refleksje"; 18.40 „Po szóstej" — Młodzieżowy Klub TV; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Rozrywkowy Konkurs Miast" (Gdańsk, Katowice, Kraków, Wrocław); 21.35 Sprawozdanie filmowe z obrad II sesji Kongresu Kultury Polskiej; 22.05 Dziennik TV; 22.20 Wiadomości sportowe; 23.00 „Opatija 1966" — finał Festiwalu pieśni i tańca organizowanego przez Telewizję jugosłowiańską (Zagrzeb).



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 94

ЮРКА ГЕНІЮШ

# ЧАС

Цік-так. Цік-так. Цік-так. Хвіліна за хвілінай. Мінуты. Гадзіны. Гады. Бом-м-м. Бом-м-м. Прайшло дзесяцігоддзе. Без перапынку. Раўнамерна. Упарта. І ў дзень і ў начы. Не лічачыся з нічым бяжыць час. Цік-так. Цік-так. Цік-так. Тфу! Хоць ты вушы затыкай.

Можна яго шанаваць — і свой і чужы. А можна траціць у пустую. Можна з ім і зусім не лічыцца. Кажуць, што яго можна нават у другіх красці. Усё з ім здаецца можна. Толькі спыніць яго ніяк нельга чорта. Ды і прыспешыць яго ніякім чынам не ўдаецца.

Цік-так. Цік-так. Цік-так. У нязгодзе мы з ім ад маленства.

«Мама! Ці гэта ўжо мае нарадзіны?» — з усіх дзіцячых сіл стараемся яго, халоднага, як англійскі арыстакрат, папхнуць уперад. Бом-м-м. Бом-м-м.

«Мне ўжо пара хадзіць у капронах. Усе мае сяброўкі іх даўно маюць» — прабуем яго рушыць уперад метадам пэрсвазіі.

Цік-так. Цік-так. Цік-так. «Божа! Божа! Калі ж гэта мне пачне расці барада? Калі ж я ўрэшце буду галіцца?» — стараемся мальбою прыспешыць ягоны рытм. Бом-м-м. Бом-м-м.

«А ці нядобра было б, козлік мой кахаsucc, вызначыць ужо дату нашага шлюбу?» — спадзяемся змусіць яго да поспеху какецтвам.

Цік-так. Цік-так. Цік-так. «А каб ты згарэў. Рушайся хутчэй, скаціна» — у адчаі рвемся да дня, у які даюць зарплату. Цік-так. Цік-так. Цік-так. «Нічога! Пяць лет мігам пройдзе» — пацяшаемся пачынаючы старацца кватэру.

Бом-м-м. Бом-м-м. Цік-так. Цік-так. Цік-так. «Тпру! Стой! Куды прэшся?» — крычым перапалоханыя, бачачы як хутка дзеці вырастаюць з толькі што купленай адзежы. Цік-так. Цік-так. Цік-так.

«Будзьце знаёмыя! Гэта мая сястрычка» — затрымоўваем яго ашуканствам ідучы з дачкою на танцы. Цік-так. Цік-так. Цік-так. «А я яшчэ хлопец хоць куды» — гладзячы адной рукою лысіну, а другой выдатны жывоцік, пераконваем саміх сябе, што ён стаіць на месцы.

Бом-м-м. Бом-м-м. «І пашто ж я, дурная, за цябе выйшла. Да мяне ж сваталіся і Прыгажынскі і Багацінскі і іншыя. Панею была б сёння». — Вяртаем яго назад, хоць у марах. Цік-так. Цік-так. Цік-так. «Калі б я меў твае гады і магчымасці, свет дагары нагамі перавярнуў бы». Хацелі б яго дрыжачымі рукамі завярнуць назад падчас дыскусіі з сынам. Цік-так. Цік-так. Цік-так. «Варта было б яшчэ пажыць крыху.

(Працяг на стар. 4)

# НІЧОГА НЕ ЗДАРЫЛАСЯ

## І. ЧЫКВІН

Не кожны мае старэйшага брата. А вось у Колькі ёсць старэйшы брат. І ён многа ганарыцца ім. Яго брат не абыякі: ён ездзіць на легкавой машыне. Машына, праўда, не яго, але ўсё ж такі яго брат — шафёр, а гэта нешта аб ім гаворыць. Самі маглі вы бачыць, як ён неаднойчы ў нядзелю вазіў па горадзе Кольку. Верх у машыне быў зняты, і Колька мог высунуць галаву ў вецер, які зараз жа раскудлачваў яго беленькія валасы. Яны доўга ездзілі, паварочваючы то ў адзін, то ў другі завулак, і Колька валіўся тады ўбок, яго брат, якога называлі Васілём — Колька называў брата Васькам, — усміхаўся таму і гнаў потым машыну па вуліцы роўна-роўна, аб'язджаючы калі-нікалі сустрэўшыя на дарозе фурманкі.

Апрача Ваські была ў Колькі малодшая сястрычка. Яе звалі Люськай, а пяшчотна Малюськай. Ёй было ўсягонаўсяго чатыры годзікі. Яна, разумеецца, не ўмела яшчэ ні пісаць, ні чытаць. А Колька ўжо ўмеў і чытаць і пісаць. Ён быў у другім класе і вучыўся нядрэнна. І тым, што ён «вучань-вучанік» — мянушку гэтую выдумаў на яго Васька, — Колька дужа ганарыўся. Ды толькі падумаць: у яго новенькая шапка з цвёрдым казырком, за плячыма сумка, а ў сумцы новенькія падручнікі. Гэтыя падручнікі ён купляў разам з мамай, а сумку купіў яму тата. Вечарам, узяўшы яго на калені, ён сказаў:

— Ну, жэўжык... — і зараз жа палез рукою за сябе і выцягнуў яго сумку. Колька з гэтай пары не расставаўся з ёю. Бывала, вечарам хоць хвілінку паносіць яе, паходзіць па пакоях, размахіваючы рукамі, усё роўна ён і сапраўды ішоў у школу.

З Люськай-Малюськай было многа клопатаў. Яе трэба было вадзіць за ручку. І Колька любіў сястрычку, ніколі яе сам і другім не даваў у крыўду. Але яму хацелася выбягчы на вуліцу, да сяброў, паганяць мячык. А тым часам Люська задавала яму пытанні — а што гэта? а чаму гэта? — на якія ён не ўмеў адказаць, а ілгаць не хацелася. Яна ж такая яшчэ маленькая. І зноў хацеў хутчэй уцячы ад яе. А Люська трымала брата за руку і шчабятала, шчабятала. Колька думаў: «Малыш ты, Люська! Не ўмееш нават чытаць. Не ведаеш, хто гэта Валянціна Карпаўна. Каб я цябе запытаў, хто гэта Валянціна Карпаўна, ты не ведала б. А яна — наша настаўніца. Яна навучыла чытаць нас, пісаць. Якую хочаш кніжку чытаеш, што хочаш напішаш»...

Трэба было доўга ўслухоўвацца, ці не трубіць ужо Васькіна машына.

Васька пад'язджаў да варот, падаваў доўгі сігнал, потым заганяў машыну на панадворак, і тады ўжо Колька вызваляў сваю руку з маленькай ручкі сястры.

Люська любіла Васіля не менш Колькі. Зараз жа сядала Васілю на калена, а Васіль гаварыў, што навучыць яе ездзіць на кані, і патрасаў сваёй магутнай нагою, а Люська гопала, гопала, смяялася.

Была летняя нядзеля. Крыху парыла. Васіль спяшаўся некуды ехаць і спачатку адмаўляўся ўзяць з сабою Кольку. Але бачачы, што малыша не ўгаварыць, дазволіў яму сесці побач сябе.

Зноў знаёмыя дамы, кіёскі, дрэвы пабеглі хутка назад. Неўзабаве Васіль прыпыніўся, выскачыў з машыны і пайшоў у чужы для Колькі дом. Не прайшло пяці хвілін, як ён паявіўся разам з нейкай цёткаю. Цётка была вясёлая, з белай хустачкай на шыі. Падышоўшы да яго, Васіль сказаў:

— Прашу пазнаёміцца: мой таварыш Мікалай, мая сяброўка Ніна.

Цётка, якую Васька назваў Нінай, засмяялася. Засмяяўся і Колька. Толькі ён не ведаў, чаму Васька назваў яго таварышам, а не проста братам.

Цётка Ніна яму надта спадабалася тым, што яна была вясёлая. «А цукеркаў магла б мне не даваць, не такі ж я ўжо малы» — думаў Колька, разглядаючы пад сонца ледзянцы. І ён захацеў, каб яна з імі паехала куды-небудзь.

...Яны ехалі асфальтаванай дарогаю, высаджанай вербамі і таполямі. Там, наперадзе, стаяла сцяна лесу. Побач Васіля сядзіць цётка Ніна. Колька глядзіць ззаду на яе белакурыя валасы, на яе белую хустачку, якую яна падтрымлівала пальцамі, каб тая часам не ўцякла з ветрам. Колька хоча пачуць, аб чым яны паміж сабою гавораць. Словы Васіля, толькі што сказаныя, неяк хутка распадаюцца ў суставах. І да Колькі далятаюць гукі: «Ва... ма... па...» А цётка Ніна, відаць, разумее, таму што ўсміхаецца да Васіля.

Колька глядзіць таксама на брата. Ён у белай кашулі, расхрыстаны і з твару зусім — як неаднойчы гаварылася ў хаце, — падобны да Колькі. Толькі на Васькіным твары, гладкім, з шырокім ілбом і залізанымі набок валасамі, бегла маршчына, якая звужвалася, калі Васіль нешта моцна думаў.

Машына зноў прыпынілася. На шашы тупалі нейкія хлопчыкі. Васіль запрашаў іх падвезці. Колька спачатку не пазнаў сваіх школьных сяброў. А гэта ж былі Віктар і Пецька. Пасля ўрокаў без прычыны, як здавалася Кольку, Віктар і яшчэ адзін з рабаценнем на твары заступілі яго на калідоры і натаўклі.

— Васька, не бяры іх. Яны... — босая Віктаравая нага знерухамела на ступеньцы машыны. Шукаючы дапамогі, ён зірнуў на шафёра, на Ніну.

— Не бяры... Куды? Бач...

Маршчына Васіля звузілася.

— У-у-у, я не ведаў, што мой спадарожнік такі эгаіст, — сказаў ён.

Колька не ведаў, што значыць слова «эгаіст», але дадумоўваўся, што Васька яго ўчынак не пахваляе. Цётка Ніна маўчала.

— Хлопцы, гайда ў машыну! — загадаў Васіль. — Хутчэй! Сябры з кошыкамі сядзелі ў машыне побач Колькі.

Няёмка было яму. І брат, які заступаўся за Колькай, назваў яго нейкім «эгаістам», і цётка Ніна не пахваліла яго, і Пецька маўчаў заўзята, на якога ён і не гневаўся. Хлопцы напэўна любаваліся яздой, а яму хацелася загаварыць з імі, запытаць іх, куды яны кіраваліся. Можа і яго ўзялі б з сабою.

— За што ж ты, брат, пагневаўся на іх? Цётка Ніна павярнулася да хлопцаў.

— Пабіліся, — сказала яна. — Прыходзіць са школы Віктар і гаворыць, што з Колькай біліся.

«Віктар? Гэта брат цёткі Ніны?» — хутка думае Колька. — Ды ён усё расказаў аб ім цётцы! Аб гэтых кляксах напэўна расказаў.

— Пеўні! Біцца! Хто ж гэта ўздумаў! Коні толькі б'юцца, — гаварыў Васіль. Машына прыпынілася.

— Ладна, хлопцы, мірыцеся! — сказаў Васіль. — Па ягады пэўна, — звярнуўся да Віктара і Пеці. — Угадаў? Ну вось. Бярыце з сабою і Кольку, — Васіль падміргнуў да Віктара і Пецькі. — А ты, брат, не забывай аб сястрычцы. Суніцы яна ў нас любіць, — паварочваючыся ўжо да Ніны, сказаў Васіль.

ВІКТАР ШВЕД

# Рукі маці

У жыццёвай восені позняй
Патрэсканыя, як барозны.
Прапахлыя прэлаю глебай,
І свежым жытнёвым хлебам.
У працы цяжкай да болю
З сярпом аблягалі ўсё поле.
У глебу жменька за жменькай
Сеялі збожжа з сявенькі.
У часе мужа нядугі
Часта трымаліся плуга.
Валодалі добра касою,
І цэпам у пуні зімою.
На вопратку дзецям і мужу
Лён пралі і ткалі кужаль.
Ласкалі і песцілі сына
Ў былыя дзяцінства хвіліны.
А потым — прайшло гадоў
многа —
Не раз адпраўлялі ў дарогу.
І гэтыя ж самыя рукі
Ласкаюць і песцяць унукаў.
О, рукі, без жаднай заганы,
Дастойныя заўжды пашаны,
Найбольшае ў свеце багацце —
Рукі маці.

# Жніво

Помню, выходзілі з вёскаю
У поле сярпамі жаць жыта.
Не спорна кратацца палоскаю
Сагнутым у серп, потам злітым.

Змяркалася, пожняю зжатаю
Насілі снапы свае ў кучы.
Калечыла пожня шурпатая
Нам босыя ногі балюча.

Кароткаю ноччу, да раніцы,
Так нылі нам рукі і плечы.
Ішлі зноў да працы, як п'яніцы,
Жніво было катаржным нечым.

А сёння палеткі ўраджайныя
Мы нават касою не косім.
Жняяркамі жнем і камбайнамі,
Камбайнам малоцім калоссе.

Жыццё незвычайна мяняецца,
Ідуць нам насустрач машыны.
Палепшыць жыццё намагаецца
Працоўным штодзённа Айчына.

МІКОЛА ГАЙДУК

# Асколак сонца

> У Драгічыне над Бугам знойдзен скарб арабскіх манет з VIII—IX стагоддзяў.
> (Паведамленне з штодзённага друку).

Пушчы кашлатай стромкая неруш —
Бураломы ды топель імшараў.
Пакручастых карэнняў ланцуг
Заціскае абрывісты бераг.
І рвецца, і пеніцца Буг —
У тонях рускія Дзівы і Мары.
За павуціннем шляхоў і дарог,
У мараве дум-успамінаў
Млее Бухара ў промняў патопе,
І кліча мурза з мінарэту,
І цюрбаны таўпяцца на плошчах гарачых,
І дом там,
І сям'я.
— Няўжо не ўбачу?.. Так, не ўбачу.
Госць хворы. Госць плача.
І сумна снузнікам-русам,
І горка.
— Час мой, настаў, няйначай.
Памерці мне тут, на шляху янтарным...
У гэтай з саф'яну каліце, —
— Купец падае ім рукою дрыжачай, —
Асколкі поўдня схаваны
І гоман роднай Бухары.
Вазьміце!
Над імі я ўпотай
Маліўся, як сівер саванам
Усцілаў мне пуціны і сцежы,
І меў у ваччу я сыпкія барханы,
І слухаў далёкі кліч караванны...
І ў пяску яго пальцы застылі
На скраю янтарнай Русі,
Снузнікі — русы спалілі
На пагосным агні
Яго цела, адзежу, тавары,
І янтарныя сны,
І чароўныя былі,
І паўдзённыя мары,
Ды ў урну пакласць не забылі
Блікі сонца і гоман ягонай зямлі.

Дрэмле пушчы драгічынскай неруш.
Буралмы і топель імшараў.
Пакручасты карэнняў ланцуг
Заціскае абрывісты бераг,
І рвецца, і пеніцца Буг —
На хвалях снуюцца Дзівы і Мары.

18.III.1966



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# РАЗМОВА аб супрацоўніцтве

Павятовае праўленне ЗМВ у Сямяцічах змяшчаецца ля «рынку». Зайшоў я сюды от так сабе, чакаючы на ПКС. Якраз канчалася чарговая нарада. Знаёмлюся са старшынёю Праўлення **Валерым Ярасем.** Размову пачынаю неяк суха, без акрэсленай канцэпцыі. Але мой размоўца аказваецца цікавым чалавекам. Штопраўда пачынае таксама ад спраў у пэўнай меры афіцыяльных. Таварыш Ярась гаворыць, што праўленне ЗМВ хацела б навязаць больш цесны кантакт з Аддзелам, а нават ГП БГКТ.

— Проста адчуваем такую патрэбу, калі не неабходнасць, — гаворыць старшыня. — Каб сустрэцца і прадыскутаваць, думаем запрапанаваць Аддзелу БГКТ у Мілейчыцах супольнае пасяджэнне Прэзідыумаў Аддзела БГКТ і Павятовага праўлення ЗМВ. На гэтым пасяджэнні можна было б вышукаць збежныя пункты працы. Працую тут не так даўно, але магу сказаць, што Таварыства мае добры актыў, дзеячоў і супрацоўніцтва прынясло б многа карыснага ЗМВ і Таварыству. Разыходзіцца нам пра тое, каб некаторыя справы арганізаваць супольна. Мы, як ЗМВ, маглі б нават удзельнічаць з грашовай дапамогай.

Безумоўна, гэта толькі некаторыя думкі, якімі падзяліўся са мною В. Ярась. Трэба дадаць, што гэта толькі яго думкі, што супольнае пасяджэнне выканаўчых органаў абедзвюх арганізацый прынясе і іншыя цікавыя справы. Разыходзіцца толькі пра тое, каб як мага хутчэй супрацоўніцтва наступіла.

Міла было слухаць, мне, журналісту беларускага часопіса, калі тав. Ярась перадаваў рэфлексіі на тэму актыўнасці моладзі ў беларускіх вёсках. — У сваёй практыцы ў Сямяціцкім павеце я дайшоў да вываду, што беларуская моладзь больш горнецца да нашай арганізацыі. Сярод гэтай моладзі я назіраю крыху больш заангажаванасці, а менш «саламянага» энтузіязму. За прыклад можа быць моладзь з Вілянова або Зубачоў. Безумоўна, моладзь мае свае зрывы, але зрывы рэальныя, якія можна зрэалізаваць.

«Вясковая моладзь — сваёй айчыне» — гэта лозунг ЗМВ на Тысячагоддзе. Аж 50 гурткоў ЗМВ прыслала пратаколы, што прынялі абавязацельствы і выканалі іх. Датычаць яны больш усяго прац для асяроддзя. Чыны — гэта часцей усяго дробныя працы, але напэўна выкананыя. Напрыклад, моладзь з Мілейчыц прыслала пратакол падпісаны старшынёй ГРН, што працавалі пры перабудове дарогі — вартасць 1650 зл. Праўленне ЗМВ ацэньвае чыны моладзі на 80 тыс. зл. Напэўна зроблена больш, але гэта ўсё на тое, каб не «нацягаць».

Пакідаў я майго размоўцу з аптымістычнымі думкамі. Аптымізм ахапіў мяне не толькі таму, што В. Ярась мае многа цікавых прапаноў. Як абсальвент Вышэйшай школы грамадскіх навук мае ён намер пісаць магістэрскую працу іменна на тэму сваёй «прафесіянальнай» працы на вёсцы. — «Можа тады дайду да больш цікавых вывадаў», — гаворыць В. Ярась. Жадаем усяго добрага, таварыш Ярась.

**А. К.**

# ЧАС

**(Працяг са стар. 3)**

Няведама аднак ці ўдасца» — перастанем урэшце верыць у тое, што зможам яго адужыць.

Яго. Час. Час. Час.

А яму хоць бы хны. Ён заўсёды сваё. Цік-так. Цік-так. Цік-так. Без узлётаў і без упадкаў. Нечалавечны. Спакойны, як дохлая рыбіна. Водзіць аслінымі вушамі стрэлак на цыферблясе жыцця. Стараецца мерыць гісторыю. Лічыць яе сваёю заслугай. Даруйце! Гэта ж нахабства! Ён лічыць сваёю заслугай нашыя ўласныя дасягненні. Што ж ён гэта за адзін? Скуль ён такі ўзяўся? Каго ж ён нам нагадвае? Каго ж ён нам нагадвае?

Людзі!

А ці ён не будзе прыпадкам пра-пра-пра-дзедам усіх бюракратаў?

**Юрка Геніюш**

## ПАРТРЭТЫ НАШАЙ ВЁСКІ

Дзядзька з Крушынян слухае выступлення паэта. Фота Ул. Паўлючук

# ГАРЦЭРСКІ СТАРТ 66|67

Верасень — гэта не толькі пачатак навучальнага года, але адначасова пачатак гарцэрскай працы. За кожным разам прыносіць ён новыя задачы, лозунгі. У гэтым годзе ўсё гэта абазначана крыптанімам **«Гарцэрскі Старт 66/67».** Хочам сказаць некалькі слоў, і то не толькі самім гарцэрам, колькі іх бацькам, старшым братам і сёстрам.

У апошніх гадах гарцэрская арганізацыя вельмі разраслася. У нашым, беларускім асяроддзі хіба няма ніводнай васьмікласнай школы, каб не было тут гарцэрскай дружыны. Але колькасць дружын і гарцэраў гэта яшчэ не ўсё, хоць і не мала. Вось паслухайце выказванні аб гарцэрах.

— Што там з вясковымі дзяцьмі зробіш. Я сама раблю планы, вяду атракцыйныя заняткі, якіх навучылася будучы ў Цэнтральнай гарцэрскай школе ў Цяпліцах, а на зборы прыходзіць толькі 50—60 працэнтаў, — гаварыла разачараваная, маладая дружыновая — настаўніца з Гайнаўскага павета.

— Не магу проста глядзець на іх абыякавасць у адносінах да ўсяго акружаючага, — расказваў дружыновы Я.

— Ведаеце, для іх нішто не існуе апрача бігбіту, не праяўляюць ніякай ініцыятывы, — гаварыў адзін са старэйшых настаўнікаў сярэдняй школы ў Бельску.

Нельга сказаць, што людзі, якія так выказваюцца, не працуюць і не з'яўляюцца заангажаванымі ў гарцэрскую працу. Наадварот, яны ўсімі сіламі стараюцца змяніць усё гэта. Але чаму аднак сустракаем такія выказванні? Найважнейшымі прычынамі пасіўнасці, абыякавасці і недахопу ініцыятыўнасці з'яўляецца тое, што часцей за ўсё дзецям даем толькі ўказанні, а яны самі не могуць нічога сказаць у сваёй дружыне, школе, асяроддзі. Нашыя дзеці, нават у сваёй арганізацыі, вечна выступаюць у ролі слухача ці статыста. А хто ж з нас узрослых быў бы здольны выступаць у такой ролі? Гэта вядзе да пэўных шкодных з'яў сярод дзяцей і моладзі. Калі нельга выказацца сваёю прадпрыймальнасцю там, дзе яна была б карысная грамадству, малады чалавек шукае кампенсацыі ў іншым месцы.

## Карысныя парады

# Шаткаўніца да капусты

Ад Пакроў пачынаецца шаткаванне капусты. Цяжкая гэта праца. Яна забірае шмат часу.

Каб дапамагчы Вам, Паважаныя Чытачы, у шаткаванні капусты, падаем вось простую канструкцыю даволі спраўнай шаткаўніцы. Пры яе дапамозе справіцеся з працай шмат хутчэй і лягчэй. Такую шаткаўніцу зможа зрабіць кожны гаспадар.

Уважна паглядзіце на рысункі. I — паказвае цэлую шаткаўніцу, але без скрынкі на галоўкі капусты; II — паказвае шаткаўніцу з-пад споду (яе дно); III — паказвае разрэз уздоўж сярэдзіны дна; IV — паказвае скрыначку на галоўкі капусты; V — паказвае спосаб замацавання нажа.

З чаго рабіць шаткаўніцу?

Дно і сценкі збіваем з дошак таўшчынёю не менш як у 2,5 см (аднацалёўкі). Могуць аднак быць дошкі паўтара і 2-х цалёвыя. Тады шаткаўніца стане цяжэйшай і менш будзе варушыцца ў час шаткавання. Скрыначку на галоўкі капусты робім з дошак танчэйшых. На нож можна выкарыстаць кавалак старой касы або лемяха. Аднак найлепш, калі нож зробіць каваль са старога нажа ад сячкарні.

Як зрабіць шаткаўніцу.

Найперш выразваем усе дошкі паводле размераў, якія падаюць рысункі. Затым у бакавых дошках шаткаўніцы далатом або спецыяльным гебелем выразваем раўчачкі шырынёю ў 2 см і глыбінёю ў 1 см. Трэба старацца, каб гэтыя раўчачкі атрымаліся роўныя і гладкія. Будзе тады лягчэй шаткаваць.

Дошку, з якой будзе дно шаткаўніцы, разрэзаць трэба наскасяк, як на рысунку. Разрэз рабіць так, каб дно з плоскасцю дна ўтвараў больш-менш вугал на 30 градусаў (стопні). Дзіркі ў нажы да замацавання яго да дна трэба рабіць прадаўгаватыя. Гэта дазволіць падымаць і апускаць нож у залежнасці ад патрэбы. Інакш кажучы можна будзе шаткаваць менш і больш тонка. Нож да скоснага разрэзу дна прыкручваем пры дапамозе вінтоў. Тады да дна прыбіваем бакавыя сценкі шаткаўніцы, але так, каб паміж нажом і другой палавінай дна асталася адлегласць 0,5—1 см. Праз гэтую дзірку будзе падаць пашаткаваная капуста. Скрыначку на галоўкі капусты збіваем з чатырох дошак. Яна не мае дна, а на вонкавых баках яе сценак прыбіваем ліствачкі такіх размераў, каб яны свабодна змясціліся ў раўчачках на бакавых дошках шаткаўніцы. Па гэтых ліствачках, бы па рэйках будзе ездзіць скрыначка з галоўкамі капусты.

Да камплекту можна яшчэ ў дне шаткаўніцы дарабіць ножкі, каб яна больш устойліва стаяла. Але гэта не абавязкова. Без ног шаткаўніца лягчэйшая і спраўней яе можна пераносіць.

Як шаткаваць капусту гэтай шаткаўніцай?

Ставім шаткаўніцу над тазам ці бочкай, абапіраючы яе замкнутым канцом недзе аб сцяну, уводзім скрыначку на галоўкі ў раўчакі (яна павінна быць так дапасавана, каб лёгка хадзіла), настаўляем нож на патрэбную таўшчыню шаткавання, ачышчаныя галоўкі накладаем у скрыначку і энергічна перасоўваем яе разам з капустай уздоўж цэлай шаткаўніцы. Нож будзе рэзаць капусту, як сечку. (ВР)

## Да тысячагоддзя Польшчы

# Старонкі мінулага

Напярэдадні студзеньскага паўстання 1863 года на польскіх землях, якія знаходзіліся пад царскім панаваннем, было вельмі неспакойна. Паліцыі і жандармерыі ўсюды здаваліся рэвалюцыйныя сходы, пракламацыі, патрыятычныя выступленні...

Увага царскай улады ў канцы 1862 года была прыцягнута мноствам пракламацый і «высока абураючых» матэрыялаў, якія пранікалі ў Варшаву з Галіцыі. «Абураючымі» лічыліся таксама і творы вядомага польскага гісторыка і дэмакрата Іахіма Лелевеля. Паліцыя адбірала і аддавала на знішчэнне шматлікія яго кнігі выдадзеныя ў Познані, у прыватнасці «Гісторыю Польшчы».

Нічога дзіўнага, што з асаблівай трывогаю былі адзначаны «падкінутыя пісьмы», якія знаходзілі на прыгранічнай тэрыторыі з Аўстрыяй, але і не толькі там. Падумаць толькі! — заклікі польскага народнага камітэта, якія заклікалі належным чынам адзначыць Тысячагоддзе польскай дзяржавы і хрышчэння польскага народа, чыталіся на літоўскіх і беларускіх землях.

Арыштаваны ў снежні 1862 года студэнт Чапліцкі, перад следчым даў паказанні, што — «заклік народнага польскага камітэта злачынствам не лічыць, што ніякіх злачынных намераў не адчуваў. Знойдзены пры ім экземпляр твораў пана Герцэна атрымаў ад невядомай асобы, узяў яго з неабдуманасці і з цікаўнасці».

Што ж гэта былі за заклікі польскага народнага камітэта, якімі так занепакоіліся царскія ўлады? Чаму пачалася такая нагонка на творы Лелевеля? Чаму паліцыя так праследвала ўсё звязанае з імем гэтага вядомага гісторыка і вучонага?

Справа заключаецца ў тым, што пачынаючы з восені 1860 года, як у Познані, так і ў Галічыне былі створаны, па ініцыятыве асоб, якія адносіліся к гуртку І. Лелевеля, спецыяльныя камітэты, якія павінны былі арганізаваць усенародныя польскія святкаванні, прысвечаныя Тысячагоддзю польскай дзяржаўнасці і хрышчэнню Польшчы. Гэтыя святкаванні былі назначаны на студзень 1863 года. Успыхнуўшае ў Варшаве паўстанне адцягнула ўвагу польскай грамадскасці ад назначанага святкавання, і хутка высакародная ініцыятыва польскіх патрыётаў была зусім забыта.

Ва ўмовах самога паўстання, у абставінах, якія склаліся ў «царстве Польскім» пасля падаўлення паўстання, шматлікія прадпасылкі святкавання Тысячагоддзя Польшчы аказаліся непрыймальнымі. Польская эміграцыя лічыла, што паасобныя гістарычныя факты ў абставінах таго часу маглі б быць няправільна вытлумачаныя і зразуметыя.

У чым жа справа? І чаму ж святкаванні Тысячагоддзя польскай дзяржаўнасці і прыняцця Польшчай хрысціянства былі назначаны к усенароднаму святочнаму юбілею ўжо тады?

Гаворачы пра тое, нельга ўпускаць з віду, што назначаныя святкаванні вельмі перапалохалі пэўную частку каталіцкага духавенства, звязаную з Рымам праз германскія і аўстрыйскія царкоўныя ўстановы.

Дык арганізатары святкаванняў заклікалі самыя шырокія колы польскай грамадскасці адзначыць гістарычны факт прыняцця Польшчай хрысціянства, задоўга да прыняцця яго паводле заходняга абраду, — паводле ўсходняга абраду, са славянскім багаслужэннем, славянскай літаратурай. І хаця ўсходні абрад быў уведзены ў Польшчы па благаславенню рымскага папы, а не быў занесены з Візантыі або з Русі, сам факт, што першыя польскія хрысціяне маліліся па-славянску, а не па-латыні, хваляваў розумы ўсіх тых, хто баяўся, што народы, якія прызнаюць усходняе хрысціянства, змогуць бліжэй пазнаць адзін аднаго і знайсці агульную, славянскую мову... як гэта было не да спадобы германафілам і слугам германскага кайзера і яго апостальскай вялікасці Франца - Іосіфа!

Львоўскі «Дзеннік Літэрацкі» — орган польскай нацыянальнай думкі ў Галічыне пісаў у лютым 1862 года:

— «Наша духавенства на працягу цэлага года павінна прыпамінаць народу і расказваць яму, калі і якой дарогай прыйшлі да нас святыя апосталы, як засталі тут язычнікаў, пачалі хрысціць польскі народ. Ксёндз Прусіноўскі, адзін з найбольш адукаваных польскіх духоўных, ужо два гады таму назад на старонках «Тыгодніка каталіцкага» за-



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Дзеля гэтага ЗГП у гэтым годзе аб'явіла асноўны кірунак працы, які гаворыць, што кожны, нават малы «зух», мусіць мець голас у гарцэрстве, таму што гэта яго арганізацыя. Генеральны кірунак праграмы ЗГП на 1966/67 год — «**Гаспадары**». Разыходзіцца аб тое, каб кожная дружына была добрым гаспадаром школы, асяроддзя, а перад усім сваёй арганізацыі. Прыкладаў такой працы можна пералічаць многа: узбагачаць матэрыяльна школу, упрыгожваць кветкамі, дапамагаць пры рамонце: узбагачаць вучняў ведамі, дапамагаць пры развязцы розных цяжкасцей і г.д.

Дык не такая павінна быць роля настаўнікаў, дружыновых, бацькоў, што толькі даваць загады, самім арганізаваць вечарыны і зборы, арганізаваць навуковыя кружкі. Хай гэта робяць самі дзеці, хаця паводле нашай думкі будзе гэта менш цікавым ці не так прыгожа ўпісаным. Роля настаўнікаў, бацькоў і дружыновых больш цяжкая і адказная — інспіраваць, умела сачыць, а перад усім аддаць сэрца. Зрабіць усё, каб дзеці сталіся гаспадарамі.

**А. Карпюк**

## Весткі пачутыя, сабраныя, запісаныя.

### ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

У сельскагаспадарчых тэхнікумах вучыцца 7 тысяч вучняў. У СПР-ах 4.900 вучняў. Менш на 1200, чым у мінулым годзе, бо ж выйшаў 8 клас і вучні засталіся на год яшчэ ў пачатковай школе.

### НАСТАЎНІКІ ВУЧАЦЦА

На амаль 11 тысяч настаўнікаў Беласточчыны палавіна мае дадатковыя кваліфікацыі, 1800 настаўнікаў вучыцца ў СН-ах і 500 у вышэйшых школах.

### НЕВЯСЁЛАЯ СІТУАЦЫЯ ШКОЛ

1) Няма інтэрнатаў. У ваяводстве налічваем 2,5 тысяч прыватных кватэр, дзе жывуць вучні.
2) У пачатковым школьніцтве на 6.440 тзв. школьных памяшканняў, вынаймаецца аж 1.470. То ўсё на вёсцы. Патрэбны асветным уладам яшчэ, але няма ад каго наняць.

### КІРАЎНІК ЦІ ДЫРЭКТАР?

Кіраўнік — менш ганаровы тытул. Кіраўнік для пачатковай школы. Дырэктар для сярэдняй. Але... чыя цяжэйшая праца? Вось для розуму: калі вучань дрэнны — дырэктар можа яго выкінуць (мае права), кіраўнік не можа выкінуць дрэннага вучня, ён павінен яго навучыць быць добрым. (вл)

клікаў да арганізацыі святкавання. Аб тым, як святыя апосталы і іх вучні, яшчэ перад прыняццём хрышчэння Мешкам паводле заходняга абраду, шырока веру Хрыстову распаўсюджвалі ў Польшчы...»

У Познані выдаўца «Тыгодніка познанскага» Казімір Шульц аб'явіў ад імя камітэта па арганізацыі юбілейных святкаванняў, што ў сувязі з Тысячагоддзем польскай дзяржавы і хрышчэння Польшчы, у юбілейным 1863 годзе будзе выдадзены вялікі альбом польскіх пісьменнікаў і артыстаў, — «у памяць тысячагадовай гадавіны ўступлення на трон першых прадстаўнікоў дынастыі Пястув і прыняцця Польшчаю хрысціянства з рук апостала Мефодзія. Альбом павінен быў быць ілюстраваны вялікай колькасцю фатаграфій».

Клуб польскіх паслоў у Берліне ўзяў пратэктарат над падрыхтоўкай святкавання. Быў высунуты праект насыпкі вялікага курганнага пагорка, — так званага «копца тысячагоддзя» ў Крушвіцы.

На чале Львоўскага камітэта сталі А. Ланчынскі, Ю. Мараўскі, Д. Лібельт, кс. Блашкевіч, кс. Панкаў, кс. Янішэўскі, Войцех Габер і інш.

Мала месца не дазваляе нам прывесці вытрымкі са зваротаў і заклікаў гэтага камітэта. У адным са зваротаў цытаваліся словы Лелевеля, які быў натхніцелем ідэі святкавання Тысячагоддзя Польшчы ў 1863 годзе.

У дні, калі ўся краіна святкуе ў 1966 годзе Тысячагоддзе Польскай Дзяржавы, мы адзначаем спробу арганізаваць падобныя ж святкаванні звыш сто год таму назад, як гістарычную даведку не пазбаўленую цікавасці і ў нашыя дні.

**Панцеляймон Юр'еў**



Шаша Бельск—Гайнаўка праходзіць побач вёскі Збуч. Ля гэтай шашы пабудавана зграбная, беласценная крама. Фота — (СЯ)

**А. Баршчэўскі, В. Швед.**

# Дружба і праца

### ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА

### ТРАДЫЦЫЯ ДРУЖБЫ І БРАТЭРСТВА

Дарагія таварышы!

Гісторыя моцна звязала лёсы нашых народаў. Беларускі і польскі народы цярпелі пад прыгнётам польскіх магнатаў і абшарнікаў і не раз узнімаліся на супольную барацьбу супроць прыгняталньікаў. Беларускі народ цярпеў прыгнёт падвойны, быў эксплуатаваны абшарнікамі і буржуазіяй і падвяргаўся нацыянальнаму ўціску. Прагрэсіўныя сілы польскага і беларускага народа разам з рэвалюцыянерамі Расіі, Украіны і іншых народаў вялі барацьбу супраць супольнага ворага — царскага самаўладдзя. На грунце супольных вызваленчых імкненняў развівалася ідэя дружбы і братэрства паміж польскім і беларускім народамі. На беларускай зямлі нарадзіўся адзін з найвялікшых палякаў Адам Міцкевіч, які быў гарачым прапагатарам дружбы і братэрства народаў. Ведаў ён і любіў беларускі народ, услаўляў яго традыцыі, ведаў таксама вашую мову.

З жыццём беларускіх мас была звязана творчасць многіх іншых нашых пісьменнікаў, кнігі якіх добра вядомыя на Беларусі. Супольным героем нашых народаў быў Кастусь Каліноўскі, правадыр паўстання 1863 года на беларускіх землях і выдавец «Мужыцкай праўды».

Новым зместам напоўніліся адносіны паміж нашымі народамі тады, калі дайшоў да голасу рэвалюцыйны работніцкі рух, калі ідэя братэрства народаў была пастаўлена на моцны фундамент пралетарскага інтэрнацыяналізму і была спалучана з барацьбой за сацыяльнае вызваленне народных мас.

Цесныя сувязі супрацоўніцтва аб'ядноўвалі заўсёды польскіх рэвалюцыянераў з рэвалюцыянерамі рускімі, беларускімі і рэвалюцыянерамі іншых народаў былой царскай імперыі.

Палякі прымалі таксама ўдзел у Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Імя вашага горада атрымаў адзін з рэвалюцыйных палкоў, які складаўся ў большасці з палякаў і прымаў удзел у барацьбе за ўзмацненне савецкай улады. Разбураючы царскую турму народаў, працоўны народ Расіі, Украіны і Беларусі пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі дапамог польскаму народу атрымаць незалежнасць. Аднак уладу ў нашай краіне пераняла тады буржуазія.

З гордасцю можам гаварыць аб тым, што польскія камуністы былі тымі людзьмі, якія на працягу дваццацігадовага панавання польскай буржуазіі безупынна змагаліся за нацыянальнае вызваленне беларускага народа і ніколі не ваганіся асудзіць палітыку нацыянальнага прыгнёту, якую праводзіла польская буржуазія.

Хутка будзем святкаваць у Польшчы 40-ую гадавіну паўстання Камуністычнай партыі Польшчы. Гісторыя гэтай папярэдніцы Польскай аб'яднанай рабочай партыі непарыўна звязана з дзейнасцю Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У падпольнай працы ў масавых класавых баях, у санацыйных турмах, у катоўнях Картуз-Бярозы — яшчэ больш узмоцнілася пралетарская салідарнасць польскіх і беларускіх рэвалюцыянераў. Іх барацьба запісала ў гісторыю нашых народаў новыя прыгожыя старонкі дружбы і братэрства. Калі прыйшлі дні крывавай вызваленчай вайны супраць гітлераўскага фашызму, аб'ядноўвала нас супольная барацьба, супольна пралітая кроў нашых салдат і партызан, супольная перамога, якая прынесла польскаму народу не толькі нацыянальнае але і сацыяльнае вызваленне.

На вашай зямлі, пад Леніна, салдаты I Дывізіі імя Касцюшкі правялі — па дарозе да новай Польшчы — сваю першую бітву. Мы ўзрушаны клапатлівасцю, якою вы акружаеце магілы тых, хто загінуў у барацьбе за Польшчу, якая жыве ў дружбе і братэрстве з народамі Савецкага Саюза.

З прамовы I сакратара ЦК ПАРП Уладзіслава Гамулкі на мітынгу ў Мінску ў 1958 годзе.

1. Што ведаеш аб супольнай барацьбе палякаў і беларусаў за сваё вызваленне ў мінулым?
2. Дзякуючы чаму ўсе людзі і ўсе нацыянальнасці ў Савецкім Саюзе і ў краінах народнай дэмакратыі сталіся роўнымі?
3. Якімі правамі карыстаюцца беларусы, што жывуць у Польшчы?

### РЫБАКОВА ХАТА

(Паэма — заканчэнне)

Мае браты, мае суседзі,
Свабодны, новы польскі люд!
Няхай жа песняй звонкай медзі
Красуе наша дружба тут!

Няхай жа стане тленню, прахам
Жыцця мінулага ярмо!
Мы пойдзем далей новым шляхам,
Друг другу руку падамо!

Сустрэнем дружна дзень наш новы,
У мірны рушымся паход.
Няхай не будзе больш згрызот
I змоўкнуць непрыязні словы!

**Якуб Колас**

1. Чаму паэт звяртаецца да палякаў як да братоў і суседзяў?
2. Чаму акрэслівае паэт польскі народ «свабодным новым людам»?
4. Да чаго заклікае аўтар беларускі і польскі народы?
4. Вывучы верш напамяць.




### СЕЙМІКІ

На 343 грамады ў ваяводстве, у 140 адбыліся ў 1966 г. сеймікі культуры альбо сесіі ГРН прысвечаныя культуры. Найбольш было іх у паветах: Бельскім, Манецкім, Ламжынскім, Кальнэньскім, Элцкім.

### ДВА Ў СЯМЯЦІЦКІМ

У Сямяціцкім павеце ў мясцовасцях Цехановец і Навадворы летам былі здадзены ў выкарыстанне людзям вясковыя дамы культуры. У Цеханоўцу на агульны кошт дому 1.700 тыс. зл. палову людзі выканалі сапраўдным грамадскім чынам.

### НЕСПРАВЯДЛІВЫЯ ПРАПОРЦЫІ

Кожны ведае, што ў культурна-асветнай дзейнасці найбольш працуюць жанчыны. Але на 35 дэлегатаў Беласточчыны на Кангрэс Культуры ў Варшаве паедзе толькі 8 жанчын, а мужчын — 27. Традыцыя, як відаць, не гіне: жанчына працуе, а плён яе прысвойвае мужчына.

### ВЁСКА БЛІЖЭЙ ТЭАТРА

У ліпені адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу «Вёска бліжэй тэатра». Конкурс закончыўся. Прымала ў ім удзел 102 установы і арганізацыі. I месца ў конкурсе заняла вёска Ружанысток у Беластоцкім павеце.

### ПЛАНЫ БЕДНЫЯ

Часам выдаецца чалавеку (калі слухае розных вывадаў і тлумачэнняў мудрых), што на Беласточчыне не здае экзамену ніякае планаванне. Лепш не планаваць тады і не цешыцца дарэмна планамі, якія не будуць выкананы. Або планаваць урэшце на беластоцкія магчымасці. У кожным выпадку найменш рэальная рэч — гэта планы ў культуры Беласточчыны. Вось для прыкладу на 16 выдавецкіх пазіцый, запланаваных у Аддзеле культуры на гэты год, выйшла 2, мо адна яшчэ паспее да канца года. (вл)

### ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Адной рукой вузла не завяжаш.
Грамада за аднаго і адзін за грамаду.
Дружнай грамадзе воўк не страшны.
Што аднаму цяжка тое гуртам лёгка.

**Наш план на кастрычнік:**

9 — Уладзіслаў Бранеўскі «Я сын той зямлі...», Максім Танк «Ля пасёлка Леніна», «Балада пра партызана Дубягу» 16 — Пятрусь Броўка «Восень... восень», П. Панчанка «Белавежа», А. Куляшоў «Плыла, цалавалася хмара з зямлёй...», 23 — М. Шулецкая «Помста», 30 — М. Чарот «Босыя на вогнішчы».



ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК. Хата ў вёсцы Мякішы, Бельскага павета. Фота Я. Чэрнякевіч. 1966 г.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## Народны Каляндар

*Калі ліст з дубіны і бярэзіны ападае чыста — будзе лёгкі год, нячыста — цяжкая зіма.*
*Калі лісцё з дрэваў не ападае, будзе вострая зіма.*

## Мала, але цікава...

**ЛЕКАРЫ Ў ПОЛЬШЧЫ**

Маем у краіне 40 тысяч лекараў. Значыць, 1 лекар прыпадае ў нас на 800 жыхароў.

**БАГАТАЕ МОРА**

30 працэнтаў газу, які ўжывае ЗША, выдабываецца з мора. У Еўропе найбольш з марскога газу карыстае Галандыя, ГФР, Данія, Нарвегія.

**ТУ—154**

Серыя самалётаў Ту пашыраецца. Бліжэйшы час прынясе Ту—154, пасажырскую машыну хуткасцю ў 900 км/гадзіну. На борт забярэ яна 160 пасажыраў.

**КУВЕЙТ МАЛЫ, АЛЕ БАГАТЫ**

Кувейт выглядае як зялёная ааза са сваім багаццем і дабрабытам на афрыканскай пустыні голаду. Яго багацце — нафта, самыя вялікія залежы ў свеце. Плошча краіны — 15 тыс. кв. кіламетраў (для параўнання Польшчы — 312 тыс.). Жыве на ёй паўмільёна жыхароў. Зямля Кувейту скрывае ў сабе 8,5 мільярда тон ропы.
Нафтавыя кампаніі ўплачваюць дзяржаве за эксплуатацыю нафты 750 мільёнаў долараў у год. Даход на асобу тады (аблічыце), толькі за галаву схапіцца.
Тэлефоны, радыё, тэлевізія, школы ўсіх тыпаў тут бясплатныя. Вучыцца 70 тыс. асоб.
Турма Кувейта — люксус і... пустая. Сядзіць тут пару англічан за нелегальны перавоз у Кувейт алкаголю.
Кувейт — адно з найбольш гарачых месц у свеце — 50 градусаў летам у цені. Кувейцы носяць белыя хусткі. Любяць пасядзець у мужчынскай кавярні над шклянкай страшэнна моцнай кавы.

**ХІРАШЫМА ЦЯПЕР**

Гарадская ўправа Хірашымы вядзе кнігу ахвяр першай атамнай бомбы, якія памерлі ўжо пасля вайны. Знойдзем у ёй 61.573 асобы. У Японіі акрамя таго зарэестравана 300 тысяч хворых на папраменную хваробу.

**ШТУЧНАЯ РУКА**

Увосень у Югаславіі адбудзецца кангрэс лекараў, на якім Швецыя прадставіць сваю штучную руку з рухомымі пальцамі, якія працуюць пры дапамозе электрычных імпульсаў. Рука выглядае, як жывая. (вл)

## Як глядзець савецкую тэлевізію?

У Брэсце знаходзіцца тэлевізійны цэнтр, а ў Гродне працуе рэтрансляцыйная тэлевізійная станцыя. Жыхары паветаў: **Дуброўскага, Сакольскага** і часткова **Беластоцкага** разам з горадам **Беластокам** маюць магчымасць карыстацца праграмай, якую рэтрансліруе гродзенская тэлевізійная станцыя. Жыхарам **Гайнаўскага** і **Сямяціцкага** паветаў даступны перадачы брэсцкага тэлевізійнага цэнтра.
Трэба толькі ведаць, што Гродна працуе на 3 канале, а Брэст — на 7. Не хопіць аднак наставіць тэлевізар на адпаведны канал. Трэба пабудаваць спецыяльную антэну — аддзельна на Брэст і аддзельна на Гродна. Мы звярнуліся за паясненнямі ў Міністэрства Сувязі БССР. Галоўны інжынер радыёўпраўлення В. Глазуноў прыслаў нам усе неабходныя размеры для антэн на Гродна і на Брэст, узятыя з афіцыйнага зборніка, які падрыхтаваў дзяржаўны навучна-даследчы інстытут Міністэрства Сувязі СССР у 1965 годзе. Гэтыя размеры (у сантыметрах) падаем на рысунку антэны. Антэна на Гродна сваімі размерамі шматзначна перавышае антэну на Брэст. Размеры антэны на Брэст падаюцца на рысунку ў дужках. Антэна на Гродна складаецца з чатырох элементаў (прутоў), а антэна на Брэст — з 5 элементаў.
З чаго будаваць антэны?
Найлепш з алюмініевых рурак, дыяметр (сьрэдніца) якіх ад 0,5 см да 2,5 см. Могуць быць рукі медныя, мосенжавыя, а нават жалезныя. Астаткова для пабудовы антэны, асабліва на Брэст, можна выкарыстаць ізаляцыйныя рурки, якія ўжываюцца ў хатняй электрычнай інсталяцыі (тзв. рурki Бергмана). Каб не паламаў іх вецер або вароны, якія любяць сядаць на антэны, трэба ўзмоцніць іх драўлянымі палкамі. Антэну можна зрабіць з алюмініевых, медных, мосенжавых або жалезных прутоў. Можна таксама скарыстаць з жалезнай ленты на абручы (тзв. беднаркі) таўшчынёю ў 3—5 мм. Антэну на Гродна, каб не гнулася, прыдзецца ўзмоцніць спецыяльнай драўлянай канструкцыяй. Проста трэба з драўляных прутоў зрабіць антэну і на яе элементы набіць бляху або гэтую беднарку. Таксама робім, калі ў распараджэнні ёсць надта ж тонкія металічныя пруты ці рурki. Для антэны на Гродна трэба каля васьмі метраў рурак або прутоў, а на Брэст — каля чатырох метраў.
Папярочнік і падпорку найлепш зрабіць з жалезнай рурki таўшчынёю ў 3—5 см. Гэта сама адносіцца і да мачты. Можа аднак адно і другое быць з сухога цвёрдага дрэва. Усе элементы антэны неабходна памаляваць, каб забяспечыць ад іржаўчыны і гніцця. Кабель куплёем плоскі, двухжыльны, сіметрычны ў ізаляцыі з пластмасы. Ён танны (3,60 зл/м) і якраз дастасаваны да польскіх тэлевізараў і да гэтых антэн, якія вам прапануем. Хто мае савецкі або нямецкі тэлевізар, павінен папрасіць радыётэхніка, каб падключыў антэну, бо ў тых выпадках трэба рабіць адпаведнае прыстасаванне антэны. Антэны неабходна прызяміць, каб забяспечыцца перад громам.
Жадаем добрага прыёму. Пішыце да нас, як удалася вам антэна, з чаго яе зрабілі, які ў вас прыём савецкіх станцый.

**Нейтрына**

З практыкі старой гаспадыні

## Марынаваныя грыбы

Маладзенькія баравічкі, або маслячкі, а нават дробныя апенькі выцерці чыстай сціркай — (не мыць), маслячкі абабраць са скуркі, пакласці ў эмаліраваную або гліняную місачку ды пасыпаць соллю. Няхай пастаяць 2—3 гадзіны, пакуль пусцяць сок. Тады разам з сокам пераложыць у эмаліраваную пасудзіну, дадаць бабковых лісткоў, перцу горкага і пахучага, гваздзікаў і пару лыжак цукру, паставіць на слабы агонь і тушыць, пакуль сок не выкіпіць. Калі соку малавата, а грыбкі яшчэ аддаюць сырымі, уліць пару лыжак слабога воцату. Астудзіць, злажыць у шкляныя слоічкі і заліць халодным воцатам, пераваранымі з бабковым лісцем, перцам і гваздзікамі. Так прыгатаваныя грыбы вельмі смачныя, не псуюцца, могуць стаяць хоць і 2—3 гады.

Л. В.

## Кароткія парады

Карункавыя абрусы, а таксама сурвэты з філейнай вышыўкай трэба прасаваць з левага боку праз вільготную марлю, складзеную ў некалькі столак.

✲

Заваркай чаю можна пафарбаваць у крэмавы колер панчохі, белыя сурвэткі, карункі.

✲

Старыя карункавыя панчохі могуць служыць добрым шматком для зняцця пылу з мэблі.

✲

Каб асвяжыць гальштук, трэба абкруціць яго вакол шклянога слоіка з гарачай вадой. Гальштук зноў набудзе добры выгляд і не страціць форму.

(ліў)

## Тадэуш Хыла...

адзін з найбольш папулярных польскіх кампазітараў і выканаўцаў уласных сатырычных песень. (вл)

## ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ „П-Т-ІКС"

Й ГОРНУНГ

КОНТРУДАР

Пасля двух месяцаў безупынных пошукаў абвер, нарэшце, трапіў на след берлінскіх перадатчыкаў. Агентам абвера і СД удалося нават захапіць знянацку адну станцыю ў час работы і ліквідаваць яе. Аднак радыст у перастрэлцы быў забіты, і след зноў перарваўся, што прыводзіла агентаў у шаленства.
Не знойдзена было таксама ніякіх дакументаў і шыфраў. Аб правале акцыі функ-абвер неадкладна паведаміў Канарысу. Адмірал не памятаў сябе ад гневу. Ён ведаў, што гэтае здарэнне звяло на нішто ўсе падрыхтаванні, якія вяліся некалькі месяцаў. Дзейнасць функ-абвера была раскрыта, і фактар нечаканасці, такі важны ў падобных выпадках, рассеяўся, як дым.

Адразу ж пасля знішчэння берлінскага перадатчыка група «Кора» па ўказанню «Жыльбера» на некаторы час спыніла сувязь па радыё. Другая група, якой кіраваў «Герман», тэрмінова перабазіравалася ў Брусель, узяўшы на сябе частку працы «VSA» («П-Т-Ікс»).
Кантакт паміж асобнымі групамі быў імгненна перапынены, сувязь з кожнай з іх падтрымліваў толькі Дзюпон — непасрэдна. У абсалютнай таямніцы, нават перад сваімі блізкімі супрацоўнікамі Дзюпон стварыў шэсць запасных груп, якія павінны былі працаваць у Берліне і на тэрыторыі Германіі.
Дзюпон збіраўся таксама перанесці сваю галоўную радыёстанцыю з квартала Муленбек у прыгарад Бруселя, бо ў апошні час у горадзе былі заўважаны ганіяметрычныя атрады. Агент Дзюпона, які працаваў у казармах вермахта на вуліцы Этэрбек, паведаміў, што атрады праходзілі вучэнні з новай апаратурай. Гэта азначала, што абвер пасля правалу ў Берліне рыхтаваўся нанесці чарговы ўдар па брусельскіх перадатчыках. Позним вечарам 12 лістапада 1941 года ў пакойчыку вілы ў Муленбеку кіпела напружаная праца. Дзюпон разам з абслугай свайго перадатчыка адсылаў апошнія шыфраграмы Цэнтру і «Жыльберу».
Гэта былі звесткі аб падрыхтоўцы гітлераўцаў да рашаючай бітвы на ўсходнім фронце. Першая радыёграма, атрыманая ад агента па мянушцы «Антон», які працаваў у штабе паветранай арміі Кесельрынга, паведамляла аб падрыхтоўцы тактычных злучэнняў Люфтвафе на востраве Крыт да адлёту ў Крым.
Другая і трэцяя радыёграмы былі ад «Кора». Ён паведамляў, што новы нямецкі знішчальнік «Месершміт», які перададзен на ўзбраенне, мае ўмацаваныя ў крылах дзве гарматы і два буйнакаліберныя кулямёты. Закончаны таксама падрыхтоўчыя работы над канструкцыяй рэактыўнага знішчальніка «Ме-262», які павінен быў атрымаць назву «Швальбе». Самалёт меўся ўвайсці на ўзбраенне ў сярэдзіне 1944 года.
Найбольшае значэнне мела, аднак, інфармацыя, таксама надасланая групай «Кора», аб тым, што ОКВ выпрацаваў план наступлення на паўднёвым фронце, мэтай якога быў Каўказ, нафтавыя залежы Баку і Батумі. Ажыццяўленне гэтага плана прадугледжвалася на вясну 1942 года. «Кора» паведамляў, што канцэнтрацыя армій, якія павінны былі прыняць удзел у гэтай аперацыі, намячалася ў раёне: Лазавая — Балаклея — Чугуеў — Белгарад — Ахтырка — Краснаград. Камандванне арміі маршала Рунштэдта знаходзілася ў Харкаве.
Гэтыя даныя пацвярджаліся і звесткамі з крыніцы «Петэрс», якія некалькі дзён назад прывёз сувязны, высланы са спецыяльнай місіяй ва Усходнюю Прусію. «Петэрс» паведамляў, што пасля ўдару на Маскву сіламі групы «Цэнтр» нямецкія арміі павінны былі перайсці ў гіганцкае наступленне на поўдні — таксама ў пачатку 1942 года. У планах ОКВ намячалася заваяванне Каўказа, удар праз Іран на Індыю і злучэнне з Японіяй. Гэты гіганцкі манеўр у выпадку поспеху мог мець непрадбачаныя вынікі для саюзных дзяржаў, усяго вольнага свету і прыгнечаных гітлераўцамі народаў.
Таму савецкае камандванне на



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## Пажар у Плёсках

Аднойчы вераснёвым днём каля 15-тай гадзіны над Плёскамі ўзвіўся дым. Сяляне, якія капалі бульбу, кінуўшы работу, беглі ў вёску. Пажар, — крычалі, — гарыць сярэдзіна вёскі! Натоўп людзей сабраўся ля клуні, якую ахапіў агонь. Ратавалі, як маглі. На пахвалу заслугоўвае мясцовая стражацкая каманда, якой кіраваў Пётр Несцерук. Дзякуючы ім згарэла толькі адна клуня. Згарэла ў ёй усё дабро, якое было. Нядаўна гаспадар назвозіў у яе сена і збожжа. Праца яго пайшла з дымам за некалькі мінут. Прычына пажару невядомая.

**Лёня Леанюк**
Плёскі

## Не шануюць

Едучы з Беластока ў Плёскі напатыкаем Пратасы. Тут нядаўна быў пабудаваны прыстанак. Добра было схавацца ад дажджу і пачакаць на аўтобус. Горш, што ў гэтай вёсцы несумленныя людзі. Дашчэнту знішчылі ўсё. На прыстанку ў будынку не засталося ніводнай шыбы. Дзеці з вёскі Пратасы павыбівалі іх з вярбовых рагатак. А каму шкода?

**Янка**

## Са школьнай нівы

У новым годзе маем 1512 пачатковых школ у ваяводстве, у гэтым: 426 школ з класамі I—4, 7 школ з класамі I—VI (гэты тып школы занікае) і 1079 поўных 8-мікласных школ.

Увогуле, у будучыні будзе толькі 2 тыпы пачатковай школы: класы I—IV — малыя вясковыя школы, і I—VIII. Апошні тып у далейшым пераможа зусім і будзе адзіным. Яго хутчэйшая ці памалейшая перамога залежыць ад урбанізацыі ваяводства, вёскі перад усім.

(вл)

## Каму сто зл?

Кіраўнікі збожжавых магазінаў у Сакольскім павеце наракаюць, што цяжка наняць памочнікаў да вагі, надносіць да яе мяшкі са збожжам. Такому памочніку плацяць удзень 100 злотых.

Паўтараю, сто злотых. (ся)

---

падставе інфармацыі сваёй разведкі пачало контрудар, мэтай якога было перахапіць тактычную і стратэгічную ініцыятыву з рук ворага. У выніку шматдзённай бітвы, якая закончылася вызваленнем Калугі і выхадам у тыл нямецкім арміям групы «Цэнтр», былі разгромлены ўшчэнт галоўныя сілы 2 танкавай арміі генерала Гудэрыяна. У рукі пераможцаў трапіла некалькі дзесяткаў тысяч палонных з 31, 131, 137, 290 нямецкіх пяхотных дывізій і 20 танкавай дывізіі, а таксама вялікая колькасць ваеннай амуніцыі, танкаў, гармат, мінамётаў і кулямётаў.

Савецкія войскі перайшлі ў наступленне на паўночным участку фронту, і, ратуючыся ад пагібелі, нямецкі штаб вымушан быў пакінуць думкі аб захопе Масквы да надыходу зімы. Разгневаны Гітлер, якому маршалы абяцалі, што каляды ён адсвяткуе ў Крамлі, зараз, ашуканы ў сваіх спадзяваннях, разжалаваў маршала фон Брауxiча.

Перамога была першым вялікім трыумфам Савецкай Арміі і яе разведкі. (Працяг будзе)

## МАРАК

Нарадзіўся і вырас ён у наваколлі Юшкавага Груда ў Беластоцкім павеце. Сустрэліся мы, калі ён прыехаў на пабыўку. Прыемна ведаць, што беластоцкія хлопцы сцерагуць берагоў нашага мора, хаця нам да яго каля паўтысячы кіламетраў. Хіба таму ніводная дзяўчына не адмовілася пайсці з ім танцаваць. Добрых табе ветраў, наш беластоцкі марак!



Фота В. Рудчык




Дарагое Сэрцайка!

Парай мне, што маю рабіць. Выйшла я замуж у другую вёску і ўжо маю сына. Спадабаўся мне адзін хлапец з гэтай вёскі. Я яму таксама вельмі падабаюся. Ён таксама жанаты і мае дзіцё. З жонкай аднак жывуць дрэнна. Валек (так ён называецца) не любіць не толькі жонку, але і свайго дзіцяці. Ён працуе ў горадзе, штомесяц мае зарплату, але грошай жонцы не аддае, але мне часта прыносіць што-небудзь. Апошнім часам жонка Валька даведалася аб гэтым. Нейк нам удалося сустрэцца і даўжэй пагаварыць. Валек намаўляў мяне, каб з ім выехаць у заходнюю частку нашай краіны і там будзем шчасліва жыць. Я вырашыла аб гэтым сказаць яго жонцы, толькі не ведаю, як гэта зрабіць. Парай Сэрцайка.

Лёня з Беласточчыны

Лёня!

Цікава, што на гэта твой муж? Ці прымыкае вочы на ўсё? Тут іменна і ён патрэбны. Шкада, што нічога аб ім не напісала. Відаць нядрэннага маеш мужа, калі ў гэтым лісце пры такіх справах магла зусім яго абмінуць.

Аднак раю табе, Лёня, падумай сур'ёзна над усім, каб потым не прыйшлося вельмі шкадаваць. Так у большасці выпадкаў бывае ў практыцы. Валек мае жонку і дзіцё. Жонкі можа не кахаць, гэта здараецца вельмі часта, аднак калі ён нават свайго дзіцяці не любіць, дык ты думаеш, што ён будзе тваё кахаць? Напэўна не! Гэты чалавек не можа быць бацькам у цэлым гэтага слова значэнні. А шчасце твайго дзіцяці ў тваіх руках. І ты, Лёня, сапраўды магла б яго пакрыўдзіць? Ты ж яго маці! У гэта нейк не магу паверыць. А падругое, калі ён не аддае грошай жонцы, нават не плаціць на дзіцё — дык які ж з яго чалавек. Ці ж можна лёгкадумнасцю плаціць за сваё шчасце і свайго сына? Раю табе, падумай і перастань сустракацца з Валькам, займіся мужам і сынам. Мо адразу не будзе табе лёгка, аднак пасля нейкага часу зразумееш і будзеш цешыцца, што не зрабіла такой вялікай у жыцці памылкі. Бо з лісту твайго вынікае, што Валек — гэта чалавек лёгкадумны, эгаістычны і ўвогуле мала вартасны. Так прынамсі ты аб ім напісала.

**Сэрцайка**



Пры ўездзе ў вёску Альхоўка красуецца такая вось прыгожая школа.

## Дзе было гразкае балота

Вёску Бабігара, што ў Гайнаўскім павеце, з усіх яе бакоў акружала велізарнае, гразкае балота. Плошча яго займала некалькі дзесяткаў гектараў. Мелі тут свае сенажаці не толькі бабігорцы, але і жыхары суседніх вёсак — Альхоўкі, Масева. Цяжка прыходзілася сялянам з уборкай сена з гэтых сенажацяў — балота. Праклілналі яны яго, косячы ў вадзе часам аж па калені. Праклінали таксама і тады, калі гразлі ў ім пры звозцы. А вывезці сена з гэтага балота не вельмі простая справа. Летам яно зусім амаль немагчыма. Трэба было чакаць зімы, калі балота замерзне, тады толькі думаць аб звозцы. Былі гады, калі зімой маразы невялікія, некаторыя сяляне трохі спазняліся, не прывозілі сена на пачатку — пры першых маразах. Тады так яно і аставалася на гэтым балоце аж на другі год. Ды якое там было і сена! Каровы адварочвалі ад яго галавы.

З дзеда прадзеда так мучыліся і праклінали сяляне гэтае балота. Нарэшце і на яго прыйшла пара, і зараз па ім астаўся толькі ўспамін.

Два гады таму на бабігорскае балота ўвайшла меліярацыя. Пры вялікай дапамозе машын людзі пачалі балота асушваць. Пачалі капаць на ім велізарныя і глыбокія равы. Восенню мінулага года было ўжо яно ўздоўж і ўпоперак пасечана равамі і заарана. Вясной гэтага года канчаліся астатнія працы пры пасеве траў.

Зараз там, дзе было гразкае балота, цешаць вока зялёныя сенажаці, на якіх расце высакаякасная трава.

**Юрка Скепка**
Альхоўка



Пастухі. Фота В. Рудчык.

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (ў злотых).

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 370 | 320 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 500 | 460 | 390 |
| яйкі | 1 шт. | — | 1,70 | 1,50 |
| масла | кг | — | 60 | 50 |
| свініна | кг | 37 | 38 | 38 |
| сала | кг | 33 | 35 | 34 |
| бульба | кг | 1,40 | 0,90 | 0,90 |
| цыбуля | кг | 5 | 5 | 4 |
| капуста | кг | — | 2 | 1 |
| морква | кг | 3 | 2,50 | 2 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 2 |

# КІНО

Праграма
На 4 — 9.X.1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Złodziej brzoskwiń" (bułgarski), 4—5. „Starsza pani bez godności" (franc.), 6—7. „Barwy walki" (polski), 8—9.

**Кляшчэлі**
„Yanco" (meksykański), 4-5. „Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), 6—7. „Zarezerwowane djla śmierci" (NRD), 8—9.

**Дубіны**
„Milczenie" (radz.), „Kronika jednego dnia" (radz.), 8—9.

**Нарва**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 5—9.

**Нараўка**
„Mam tu swój dom" (polski), „Artysta do wszystkiego" (radziecki), 5—9.

**Чыжы**
„Gorąca linia" (polski), „Jojo" (franc.), 5—9.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ojciec żołnierza" (radz.), „Kalosze szczęścia" (polski), 5—9.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zakochani są między nami" (polski), „Inspektor i noc" (bułgarski), 5—9.

**Орля**
„Jesienny dzień" (wietnamski), „Kapral i inni" (węgierski), 5—9.

**Райск**
„Lęk" (czeski), „Testament uczonego" (radz.), 5—9.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Następcy tronów" (wietnamski), „Złoto" (polski), 5—9.

**Міхалова**
„Tytoń" (bułg.), 4—5. „Baza ludzi umarłych" (polski), 6—7. „Fatalny list" (angl.), 8—9.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Tak blisko nieba" (czeski), 4—5. „12 milionów holendrów" (holenderski), 6—7. „Dwie strony medalu" (angl.), 8—9.

**Мілейчыцы**
„Zobaczymy się w niedzielę" (polski), 4—5. „Hasło bez odzewu" (bułgarski), 6—7. „Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), 8—9.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Oddajcie mi dziecko" (NRD), 4—5. „Dotknięcie nocy" (polski), 6—7. „Dzwonić Nordhside N. 777" (USA), 8—9.

**Шудзялава**
„Był sobie dziad i baba" (radziecki), „Człowiek z fotografii" (jugosł.), 5—9.

**Сідра**
„Niewysłany list" (radz.), 4—5. „Panie inspektorze" (franc.), 6—7. „Żona dla Australijczyka" (polski), 8—9.

**Сухаволя**
„Nieznany" (polski), „Ucieczka z Paryża" (franc.), 8—9.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Gorąca linia" (polski), „Jazz, jazz, jazz" (franc.), 8—9.

**Ліпск**
„Ameryka, Ameryka" (USA), „Ewa A-5116" (węgierski), 8-9.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-31. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 5965. Bltk D-3



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

